# Голас Радзімы

№ 38 (2128)
21 верасня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Сёння ў 629 дзіцячых музычных, мастацкіх, харэаграфічных школах, школах мастацтваў маюць магчымасць займацца больш чым 75 тысяч дзяцей, якія жывуць у гарадах і ў сельскай мясцовасці. Час навучання ў такіх школах ад 4 да 8 гадоў, у залежнасці ад узросту дзіцяці, яго здольнасцей і жадання атрымаць у далейшым прафесію работніка культуры ці мастацтва. Плата за вучобу складае менш 5 рублёў у месяц.

Дзіцячых музычных школ у рэспубліцы 555. У іх хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца іграць на фартэпіяна і струнных смычковых, духавых, рускіх і беларускіх нацыянальных інструментах. Музіцыруюць у розных аркестрах і ансамблях, спяваюць у хорах.

Штогод у Беларусі праводзяцца рэспубліканскія конкурсы і фестывалі навучэнцаў дзіцячых музычных школ. І кожны раз яны адкрываюць нам новыя таленты. Трэба сказаць, што сёння дзіцячыя школы — гэта не толькі навучальныя ўстановы, але і цэнтр эстэтычнага выхавання ў сваіх рэгіёнах. У кожным горадзе і раёне створаны дзіцячыя філармоніі.

Адной з лепшых у рэспубліцы можна назваць дзіцячую музычную школу горада Салігорска Мінскай вобласці. Год нараджэння яе 1961, і размяшчалася яна тады ў невялічкім будынку. 66 вучняў з 4 выкладчыкамі займаліся на фартэпіяна, баяне і домры. Зараз у Салігорскай музычнай школе займаецца звыш 700 чалавек, яны вучацца іграць на 18 музычных інструментах. Тут працуюць 75 выкладчыкаў. Сярод выпускнікоў — артысты дзяржаўных аркестраў, кіраўнікі і актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, выкладчыкі музычных вучылішчаў і школ рэспублікі.

Вядома ж, не ўсё так добра ў культуры, у прыватнасці, у галіне эстэтычнага выхавання. Гадамі сфарміраваны астаткавы прынцып фінансавання культуры нанёс ёй маральную і матэрыяльную шкоду. Знізіўся прэстыж прафесіі работніка культуры, нездавальняючыя ў большасці сваёй жыллёва-бытавыя ўмовы маладых спецыялістаў. Бедная матэрыяльная база многіх школ. Толькі каля палавіны іх маюць свае памяшканні. У музычных школах не хапае інструментаў. У мастацкіх школах не хапае пэндзляў і фарбаў, у харэаграфічных — балетнага абутку і г. д.

І ўсё ж варта сказаць, што справа гэтая на сумленні многіх людзей. Залежыць яна таксама, хочацца падкрэсліць, і ад адносін мясцовых органаў улады як да кадраў культуры, так і да стану яе матэрыяльнай базы. У тых мясцовасцях, дзе пануе мова ўзаемаразумення, відавочныя вынікі і добрай вытворчай працы, і цікавага адпачынку насельніцтва.

НА ЗДЫМКУ: педагог Салігорскай музычнай школы Вольга ДОЛГУШАВА праводзіць заняткі з вучнямі.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ПРАФСАЮЗНЫ РУХ

## МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР

У Мінску прайшоў міжнародны семінар «Удзел працоўных у кіраванні прадпрыемствам і роля прафсаюзаў», арганізаваны Інстытутам сацыяльна-працоўных даследаванняў Міжнароднай арганізацыі працы. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі прафсаюзаў краін Азіі і Афрыкі.

— Перамены, што адбываюцца ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці вашай краіны, выклікаюць вялікую цікавасць ва ўсім свеце, — сказала кіраўнік дэлегацыі Размары Грыў, дырэктар праграм па публікацыі матэрыялаў інстытута. — Мы спадзяваліся, што савецкія калегі падзеляцца з намі сваім багатым вопытам удзелу працоўных у кіраванні. Рады, што не памыліліся.

У час работы семінара яго ўдзельнікі наведалі вядучыя прадпрыемствы сталіцы, пабывалі ў калгасах і саўгасах рэспублікі, прынялі ўдзел у Дні прафсаюзных дзеянняў за мір.

ГРАМАДСКІЯ АКЦЫІ

## РЫХТУЕЦЦА ФОРУМ РАБОЧЫХ

Рад працоўных калектываў рэспублікі выступіў з ініцыятывай правесці рабочы з'езд (канферэнцыю). З іх удзелам створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы канферэнцыі прадстаўнікоў працоўных калектываў рэспублікі.

Адбылося першае яго пасяджэнне. Члены аргкамітэта аднадушна выказаліся за скліканне першага рэспубліканскага форуму прадстаўнікоў працоўных калектываў. Разгледжаны арганізацыйныя пытанні. Вырашана, што на канферэнцыю будуць дэлегаваны прадстаўнікі прадпрыемстваў і арганізацый усіх галін народнай гаспадаркі, рабочых складуць максімальную колькасць удзельнікаў. Мяркуецца на ўвазе абмеркаваць на ёй пытанні ўзмацнення ўплыву працоўных калектываў на грамадска-палітычную абстаноўку ў рэспубліцы.

Прынята рашэнне запрасіць на канферэнцыю кіраўнікоў ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР, Дзяржплана, Дзяржкампрацы, Дзяржснаба, Мінфіна, Мінгандлю рэспублікі, Белкаапсаюза, Мінлегпрома, Міністэрства ўнутраных спраў БССР, іншых міністэрстваў і ведамстваў.

ТАВАРЫ НАРОДУ



Кухонныя каборы «Надзея» пастаўляе ў гандлёвую сетку рэспублікі Багушэвіцкая мэблевая фабрыка, што ў Сенненскім раёне. Рабочы і абедзенны сталы, разнастайныя шафы, якія складаюць камплект, вабяць пакупнікоў зручнасцю і прыгожым выглядам.
НА ЗДЫМКУ: кухонныя наборы «Надзея» рыхтуюцца да адпраўкі ў гандлёвую сетку.

САДРУЖНАСЦЬ ПІСЬМЕННІКАЎ

## СТВОРАНЫ ПЕН-ЦЭНТР

Пен-клуб — міжнародная садружнасць пісьменнікаў існуе амаль семдзесят гадоў. Яго мэта — умацоўваць супрацоўніцтва літаратараў усіх краін, незалежна ад іх палітычных поглядаў. Гэта грамадская арганізацыя добра вядома ва ўсім свеце. Аднак савецкія пісьменнікі па розных прычынах сталі ў баку ад яе работы. І толькі ў пачатку гэтага года яны ўтварылі свой пен-цэнтр, які ўзначаліў Данііл Гранін.

Міжнародны пен-клуб выдзеліў квоту і для нацыянальных пісьменніцкіх арганізацый Савецкага Саюза. Таму ініцыятыўная група літаратараў стварыла свой беларускі пен-цэнтр. Яго прэзідэнтам выбраны Рыгор Барадулін.

ГЕАЛОГІЯ



Нябачнымі ніцямі звязаны гэты невялікі будынак па вуліцы Батанічнай у Мінску з многімі куткамі нашай рэспублікі. У Цэнтральнай лабараторыі Беларускага вытворчага аб'яднання па геолага-разведачным работам («Беларусгеалогія»), якая размяшчаецца тут каля чвэрці стагоддзя, вядуцца даследаванні практычна ўсіх карысных выкапняў, разведаных на тэрыторыі Беларусі. На аналіз, бяруцца не толькі пробы горных парод, але і вод. І няма, відаць, радовішчаў, цяпер вядомых кожнаму, вызначыць якія ў свой час не дапамаглі б супрацоўнікі лабараторыі. Так былі выяўлены рэчыцкая нафта і мікашэвіцкі граніт, калійныя і паваранныя солі, буры вугаль, гаручыя сланцы, фасфарыты, мінеральныя воды. Спецыялісты лічаць, што не выключана нават з'яўленне тэрміна «беларускія алмазы». Каб не памыліцца пры іх апазнанні, метадыст мінералага-петраграфічнай лабараторыі Святлана Туніцкая ездзіла ў Якуцію, каб вывучыць там прыкметы мінерала. Памылкі ў такой справе быць не павінна. І таму ўсё, што трапляе ў Цэнтральную лабараторыю, праходзіць самую скрупулёзную апрацоўку.
НА ЗДЫМКУ: супрацоўнікі лабараторыі інжынер Наталля ПАПОВА, начальнік Цэнтральнай лабараторыі Уладзімір ЛЕВАШОЎ і начальнік хіміка-аналітычнай лабараторыі Фёдар КУДРЭЙКА.

ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ

## ВЫГАДНЫ ГАНДАЛЬ

Глыбоцкі лясгас набывае ўсё большы аўтарытэт гандлёвага партнёра на міжнародным рынку. Дзесяць працэнтаў ад агульнага аб'ёму ўсёй пускаемай прадукцыі пастаўляецца на экспарт.

Лесаперапрацоўшчыкі ўмеюць улічыць попыт і забяспечыць прапанову. У Югаславію і Фінляндыю адгружаюцца балансы з розных парод драўніны і падтаварнік. Пастаяннымі партнёрамі лясгаса сталі таксама Швецыя і ФРГ. Узамен імпартуюцца высокапрадукцыйнае абсталяванне і машыны замежных фірм — шведскія пілы, грузчыкі драўніны «Хіаб» і іншыя вырабы.

Развіццё міжнародных эканамічных сувязей не перашкаджае павялічваць вытворчасць тавараў для ўнутранага рынку. Толькі дрэваапрацоўчы цэх выпускае каля двух дзесяткаў назваў прадукцыі. Спажыўцу прапаноўваюцца садовыя домікі і зрубы, плінты розныя, плінтусы, іншыя вырабы, якія карыстаюцца нязменным попытам у насельніцтва.

У ГОНАР ПАЭТА

## ПУШКІН НА ВІЦЬБЕ

На крутым беразе рэчкі, якая дала імя Віцебску, адкрыты помнік вялікаму рускаму паэту Аляксандру Пушкіну.

Двойчы, адпраўляючыся ў паўднёвую ссылку і па дарозе назад, у родныя пскоўскія мясціны, праязджаў апальны аўтар «абуральных вершаў» праз старажытны горад. Ведаючы і цэнячы гэта, яго жыхары ўжо даўно назвалі імем Пушкіна ціхую набярэжную вулачку, разбілі ўтульны сквер. Тут і стаіць прыгожая скульптура, створаная маладым віцебскім майстрам Іванам Казаком. Нібыта толькі што выйшаў з экіпажа, які надакучыў за доўгую дарогу, уважліва ўглядаецца бронзавы Пушкін у панараму Віцебска, апошняя сустрэча з якім была роўна 165 гадоў назад.

Урачыстасці з нагоды адкрыцця помніка прайшлі паэтычна. Гучалі рамансы на вершы Пушкіна, яго творы на рускай і беларускай мовах.

ПАМЯЦЬ

## ПОМНІК ПАТРЫЁТУ

У прыгранічным горадзе Свіслачы адноўлены помнік аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі, Літве і Польшчы генералу Рамуальду Траўгуту. Яго адкрыццё прымеркавана да 125-й гадавіны з дня пакарання смерцю патрыёта-земляка, імем якога ў гады другой сусветнай вайны была названа адна з дывізій Войска Польскага.

Помнік, узведзены на ахвяраванні насельніцтва, быў устаноўлены ў 1928 годзе. Аднак праз адзінаццаць гадоў яго разбурылі. Захаваўся толькі пяціметровы пастамент з каменя, а скульптура і іншыя дэталі бясследна зніклі.

Група рэстаўратараў, якую ўзначаліў скульптар Аляксандр Анціпін, па захаваных у архівах фатаграфіях аднавіла помнік.

Так праз паўстагоддзя адноўлена памяць пра чалавека, які аддаў жыццё за свабоду працоўнага народа.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ДЗЕЛАВАЯ РАЗМОВА

**На чарговую сустрэчу з журналістамі ў рэспубліканскім прэс-цэнтры сабраліся адказныя работнікі Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі. Размова ішла пра месца і ролю Кампартыі ў сучасных сацыяльна-палітычных перабудовачных працэсах, што адбываюцца ў савецкім грамадстве.**

У адным з першых жа выступленняў журналістаў у адрас адказных партыйных работнікаў прагучаў папрок у тым, што яны недастаткова інтэнсіўна і эфектыўна вядуць прапагандысцкую работу ў шырокіх масах, мала выступаюць на розных грамадскіх сходах і мітынгах, не ўсе з іх умеюць кваліфікавана і пераканаўча адстойваць свае погляды ў разнастайных дыскусіях, асабліва з прадстаўнікамі нефармальных аб'яднанняў. Васіль Борыс, загадчык аддзела арганізацыйна-партыйнай работы ЦК КПБ, згадзіўся з заўвагай. У той жа час ён прывёў лічбу: 120 дзён у год супрацоўнікі яго аддзела праводзяць у камандзіроўках па рэспубліцы, а гэта значыць на сустрэчах з радавымі камуністамі, наогул з працоўнымі. Але іншая справа — эфектыўнасць гэтых паездак. Тут сапраўды ёсць яшчэ над чым працаваць. В. Борыс падкрэсліў, што першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў таксама прыкладна раз у тыдзень бывае ў працоўных калектывах, выступае перад партработнікамі.

Першы намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела Мікалай Даніловіч у сваю чаргу дадаў, што ў параўнанні з ранейшым зараз у партыйных работнікаў, асабліва кіраўнікоў, узнікла неабходнасць удзяляць больш увагі і сіл аналітычнай рабоце, бо сённяшняе жыццё патрабуе выпрацоўкі не толькі правільнай тактыкі, але і выверанай стратэгіі.

Загадчык дзяржаўна-прававога аддзела Валянцін Сукала заўважыў, што партработнікі прымаюць удзел ва ўсіх санкцыяніраваных мітынгах. А асабіста яму некалькі разоў давялося ўдзельнічаць і ў несанкцыяніраваных. Гэта ж можна сказаць і пра сакратара Мінскага гарадскога камітэта партыі Пятра Краўчанку, некаторых іншых яго калег.

На прэс-канферэнцыі была закранута яшчэ адна вельмі балючая на сёння праблема: адносіны партыйнага кіраўніцтва да забастовак.

Барыс Макейчанка, загадчык сацыяльна-эканамічнага аддзела, сказаў, што забастоўка — гэта крайні сродак. Пакуль усе іншыя спосабы барацьбы не выкарыстаны, да забастоўкі звяртацца недапушчальна. На справе ж атрымліваецца так, што пры аналізе выстаўленых патрабаванняў 90 працэнтаў з іх магло быць вырашана на месцах.

На прэс-канферэнцыі была ўзнята вельмі актуальная праблема перадачы ўлады Саветам. В. Борыс выказаў упэўненасць, што, нягледзячы на ўсю складанасць задачы, Саветы абавязкова атрымаюць усю паўнату ўлады. Гарантыяй гэтаму — першы З'езд Саветаў, які адбыўся ў Маскве летам. Але на месцах справа пакуль рухаецца марудна, бо нашы мясцовыя Саветы знаходзяцца сёння ў вельмі цяжкім стане. Сапраўдныя ж умовы для пераходу ўлады да мясцовых Саветаў складуцца з пераходам тэрыторый на гаспадарчы разлік, калі Саветы атрымаюць значныя матэрыяльныя сродкі.

Нядаўна ў рэспубліканскім друку быў апублікаваны праект новага закона аб выбарах у мясцовыя Саветы Беларусі. Ён выклікаў неадназначную ацэнку ў людзей, асабліва моманты, звязаныя з выбарамі дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, правядзеннем акруговых сходаў, прамым і ўсеагульным выбраннем Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі. Журналісты пацікавіліся стаўленнем партыйных кіраўнікоў да гэтага праекта.

У сваіх адказах партыйныя работнікі выказвалі розныя думкі, кожны імкнуўся аргументаваць сваю пазіцыю, але з павагай ставячыся да думак іншага. Тон размовы ў прэс-цэнтры быў дзелавы і канструктыўны.

ПЧАЛЯР-АМАТАР



У вёсцы Рачныя Докшыцкага раёна добра ведаюць пенсіянера Міхаіла Працукевіча. Ён мясцовы пчаляр-аматар. Свой прысядзібны ўчастак Міхаіл Іванавіч адвёў пад вуллі. У яго іх шэсць дзесяткаў. І хаця пчалярства — справа крапатлівая, патрабуе пастаяннай увагі, ведаў і працы, займаецца ёю пенсіянер з захапленнем. Мёд прыносіць руплівому гаспадару і немалы даход. У мінулым годзе, напрыклад, пчаляр-аматар прадаў насельніцтву каля 400 кілаграмаў, а сёлета медазбор будзе яшчэ багацейшым.
НА ЗДЫМКУ: пчаляр Міхаіл ПРАЦУКЕВІЧ.

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ПРАЦА І БЫТ РАБОЧЫХ 100 ГАДОЎ НАЗАД

Савецкая Беларусь, народжаная 1 студзеня 1919 года, крочыць сёння ўжо ў сваё восьмае дзесяцігоддзе. Шмат падзей адбылося за гэты час, карэнным чынам змяніліся ўмовы працы і жыцця як у горадзе, так і на вёсцы, хаця і сёння яшчэ ёсць шмат нявырашаных праблем па паляпшэнню сацыяльна-культурнай сферы. На сучасным этапе развіцця савецкага грамадства значная ўвага ўдзяляецца пытанням гуманізацыі працы, арганізацыі і культуры вытворчасці, паляпшэнню аховы здароўя працоўных.

Якія ж умовы працы і быту рабочых існавалі ў Паўночна-Заходнім краі Расіі 80-100 гадоў назад, у эпоху развітога капіталізму? Перагорнем лісты архіўных дакументаў, статыстычных матэрыялаў, старонкі прац дарэвалюцыйных і савецкіх вучоных-гісторыкаў і зазірнём у не такое ўжо далёкае мінулае беларускага народа.

Па даных усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 года, у гарадах заходніх губерній пражывала 10 працэнтаў усіх жыхароў. Нацыянальны склад гараджан быў даволі стракаты: беларусы, яўрэі, палякі, рускія, татары і іншыя. Разам з тым значны працэнт гарадскога насельніцтва складаў карэнны этнас — беларусы. Згодна падлікам М. Біча на падставе матэрыялаў гэтага перапісу, колькасць гараджан-беларусаў у цэлым дасягала 14,5 працэнта, у тым ліку па Магілёўскай губерні — 30, па Віцебскай — 13,3, па Мінскай — 11,8, па Гродзенскай — 9,6, па Віленскай — 7,6 працэнта. Тым не менш беларусы займалі вядучае становішча сярод рабочых буйной (цэнзавай) прамысловасці, якая ахоплівала да пачатку XX стагоддзя каля паловы ўсяго рабочага класа Беларусі. Колькасць беларусаў сярод прамысловага пралетарыяту складала 22,4 працэнта. Аднак у канцы мінулага — пачатку цяперашняга стагоддзяў ішоў значны прырост гараджан за кошт прытоку з вёсак збяднелага сялянства, якое папаўняла рады пралетарыяту. Напрыклад, у 1911 — 1913 гадах у Мінску выхадцы з сялян складалі каля 40 працэнтаў рабочых Вакзальнага, Кашарскага заводаў, звыш 70 працэнтаў рабочых Шпалернай фабрыкі. У 1916 годзе 89,9 працэнта рабочых гомельскіх чыгуначных майстэрняў былі беларускай нацыянальнасці. Нямала беларусаў было занята і ў дробнай прамысловасці.

Адным з важных паказчыкаў умоў працы і быту на вытворчасці з'яўляецца працягласць рабочага дня і рабочага тыдня. Да канца XIX стагоддзя ў Расіі, у тым ліку і на Беларусі, не было выдадзена заканадаўчых актаў аб працягласці рабочага дня, якая цалкам залежала ад уладальніка прадпрыемства, майстэрні, крамы. Рабочыя працавалі па 12-14 гадзін, а бывала што і болей. Шырока ўжывалася танная жаночая і дзіцячая праца. Часцяком рабочы дзень жанчын, падлеткаў (ад 15 да 17 гадоў) і малалетніх дзяцей (12-15 гадоў) па працягласці быў такім жа, як і ў дарослых мужчын. Асабліва шырока бытавала жаночая і дзіцячая праца на тэкстыльных, шкляных, запалкавых, тытунёвых, харчовых прадпрыемствах. Пастанова аб 8-гадзінным рабочым дні для дзяцей амаль нідзе і ніколі фактычна не выконвалася. Карэспандэнт «Витебских губернских ведомостей» з абурэннем пісаў пра існаванне «10 — 11-гадзіннага рабочага дня для малалетняга... у атмасферы пылу або шкодных пары і газаў...». На Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыцы «Дзвіна» 70 працэнтаў усіх рабочых складалі жанчыны і падлеткі. Пры рабочым дні 11 з паловай гадзін яны атрымлівалі зарплату ўдвая меншую за мужчын. У чэрвені 1882 года быў выдадзены закон аб забароне ўжывання на фабрыках і заводах працы дзяцей да 12 гадоў і ўвядзенні для дзяцей 12 — 15-гадовага ўзросту 8-гадзіннага рабочага дня. Аднак на практыцы гэта палажэнне парушалася. Упершыню працягласць рабочага дня абмяжоўвалася законам 1897 года да 11,5 гадзіны, а ў суботу і напярэдадні свят — 10 гадзін. У нядзелю быў выхадны. Аднак чаргозага адпачынку працаўнікам не давалася, а жанчыны нават не мелі адпачынку па цяжарнасці. Ленін пісаў у 1913 годзе, што «сістэма водпускаў у Расіі зусім яшчэ слаба развіта,.. водпускі для рабочых нават у прамысловасці такой перадавой краіны, як Германія, даюцца да агіднасці мала». Шырока практыкаваліся звышурочныя работы. У Кіеўскай фабрычнай акрузе, куды ўваходзілі Мінская і Магілёўская губерні, у 90-я гады XIX стагоддзя звышурочныя работы выконвалі больш за палову ўсіх прамысловых рабочых. Занадта доўгі рабочы дзень прыводзіў да стомленасці, да заўчаснага зношвання арганізма людзей. Асабліва цяжкія ўмовы працы былі на дробных прадпрыемствах, у майстэрнях і да т. п. У скарзе мінскаму губернатару рабочыя пісалі: «У маленькіх майстэрнях мы пра[illegible]ем па 16 — 17 гадзін у сутк[illegible] 7 раніцы да гадзіны ночы, [illegible]едаем і вячэраем за працай. У выніку такой празмернай працягласці работы ў нас не застаецца часу ні на адпачынак, ні на сон, які працягваецца толькі 5 гадзін, ні на клопаты [illegible]дзенні і кватэры».

У час рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў капіталісты былі вымушаны задаволіць шэраг патрабаванняў працоўных аб паляпшэнні ўмоў працы, скарачэнні рабочага дня да 8—9 гадзін. Аднак у гады рэакцыі гэтыя ўступкі былі адабраны. Гаротнае становішча працоўных было настолькі відавочным, што гэтага не магла не заўважыць нават адміністрацыя. Дырэктар Добрушскай папяровай фабрыкі ў справаздачы за 1905 год пісаў: «Застаючыся па 12 гадзін у суткі ў сценах фабрыкі, працуючы да таго ж палавіну года ў начны час, рабочы... не можа вылучацца моцным целаскладам і прэтэндаваць на даўгалецце. Пераходзячы кожны дзень з адной змены ў іншую, яму даводзіцца каля 50 разоў у год працаваць па 18 гадзін у суткі». К. Пажытнаў у кнізе «Становішча рабочага класа ў Расіі», выданай у 1908 годзе, адзначаў, што ў Віленскай фабрычнай акрузе, куды ўваходзілі Віленская, Гродзенская, Віцебская губерні, на броварах у канцы XIX стагоддзя існаваў найбольш працяглы рабочы дзень: ён пачынаўся ў 2 гадзіны ночы і цягнуўся з перапынкам да 6-8 гадзін вечара.

Жылі пралетарыі часцяком на фабрычна-заводскіх кватэрах, якія даваліся быццам бясплатна, але фактычна за кошт зніжэння велічыні заработку. Сямейныя звычайна наймалі жыллё (камору, кут, ложак). Пра тое, што сабой уяўлялі заводскія казармы, сведчыць паведамленне фабрычнага інспектара Віленскай акругі за 1903 год: «Колькі-небудзь задавальняючыя казармы амаль не сустракаюцца: яны звычайна страшэнна перапоўнены, брудныя, з голымі нарамі, без усякіх бытавых зручнасцей, частка рабочых спала на падлозе, іншы раз у гэтым жа памяшканні размяшчаліся і сем'і з дзецьмі». Антысанітарыя, галеча панавалі ў такім жыллі. У архіўных дакументах ёсць нямала звестак і аб тым, што месцам начлега нярэдка служылі вытворчыя памяшканні, дзе ў якасці ложка выкарыстоўваліся сталы, лаўкі і да т. п.

За доўгі рабочы дзень пралетарыі атрымлівалі даволі нізкую заработную плату, якая не забяспечвала пражытачны мінімум. Узровень зарплаты на Беларусі быў ніжэйшы, чым у сярэднім па Расіі. У 1904 годзе сярэдні гадавы заработак аднаго рабочага ў Віцебскай губерні складаў 128 рублёў, у Віленскай — 189, Смаленскай — 141, Маскоўскай — 202, Пецярбургскай — 302 рублі. Жаночая і дзіцячая праца аплачвалася значна ніжэй за мужчынскую за аднолькавы рабочы дзень. У пачатку XX стагоддзя на запалкавай фабрыцы «Везувій» жанчыны атрымлівалі 35—40 капеек у дзень, мужчыны — ад 75 капеек да 1 рубля, на Мінскай тытунёвай фабрыцы сярэдняя тыднёвая зарплата жанчын была амаль у 3 разы меншай, чым у мужчын. Нават на перадавым для таго часу прадпрыемстве — віцебскай ільнопрадзільнай фабрыцы «Дзвіна» Руска-бельгійскага акцыянернага таварыства ў 1904 годзе палавіна рабочых мела 25—35 капеек у дзень, гэта значыць 74—104 рублі ў год, хаця бюджэт халастога рабочага патрабаваў 120 рублёў у год.

Рамесныя прафесіі былі самымі нізкааплатнымі. Памер намінальнага заработку ўрэзваўся пад рознымі падставамі, асабліва праз сістэму штрафаў. Па закону 3 чэрвеня 1886 года велічыня штрафу магла даходзіць да трэцяй часткі месячнай зарплаты. Штрафавалі не толькі за спазненне на работу, але і за «дзёрзкасць і непаслухмянасць». Дзяцей таксама не абмінаў гэты лёс. На фабрыцы «Дзвіна», напрыклад, за 2 гады было аштрафавана 5 230 рабочых. У 1906 годзе колькасць аштрафаваных на прадпрыемствах Беларусі даходзіла да 10 тысяч чалавек, а ў 1914-м — удвая больш.

Бытавыя ўмовы працоўных значна пагаршаліся з-за нерэгулярнай выдачы зарплаты, да таго ж гаспадары прымушалі іх браць прадукты ў фабрычных крамах па больш высокай цане, чым у гарадскіх. Арганізацыя харчавання на вытворчасці была нездавальняючай. Да пачатку XX стагоддзя сталовых не было нават на буйных фабрыках і заводах. Пераважная большасць рабочых ежу бралі з сабой з дому. З гарачымі стравамі абедалі галоўным чынам сямейныя рабочыя на сваіх кватэрах, іншы раз і адзінокія харчаваліся ў гаспадынь.

У майстэрнях рамеснікаў і на дробных прадпрыемствах бытавалі «гаспадарскія харчы». Якасць і каларыйнасць ежы былі невысокімі. Спецыяльныя памяшканні для прыняцця ежы адсутнічалі, і працаўнікі карміліся на рабочых месцах, на брудных сталах і станках. У архіўным дакуменце канца XIX стагоддзя паведамлялася: «Уладальнікі амаль не цікавяцца бытам рабочых. На фабрыках і заводах няма ніякай упарадкаванасці для рабочага люду: няма ні сталовак, ні бібліятэк-чытальняў, ні кас узаемадапамогі». Сталовыя былі адкрыты толькі ў пачатку гэтага стагоддзя на шэрагу прадпрыемстваў, але якасць ежы там не адпавядала высокім цэнам.

У пагоні за прыбыткам капіталісты ўзмацнялі эксплуатацыю працоўных, аднак не праяўлялі належнага клопату пра стан іх здароўя і стварэнне спрыяльных вытворчых умоў. Памяшканні большасці фабрык і рамесных майстэрняў былі цеснымі, шумнымі, сырымі, пыльнымі, з дрэннай вентыляцыяй, тэхніка бяспекі адсутнічала. Інспектар Віленскай фабрычнай акругі з агледжаных у 1885 годзе 271 прадпрыемстваў назваў толькі 5—10, якія больш-менш задавальнялі ў санітарных адносінах. Праз 20 гадоў фактычна нічога не змянілася. Карэспандэнт віцебскай губернскай газеты пісаў, што за невялікім выключэннем не існуе прамысловых прадпрыемстваў з нармальнымі ўмовамі працы: «Адсутнасць усякай рацыянальнай вентыляцыі, пыл або шкодныя выпарэнні, холад, цесната — вось амаль агульныя, усе разам або паасобку, прыкметы... уладкавання і ўтрымання нашых фабрык і майстэрняў». Асабліва дрэннымі былі санітарна-гігіенічныя ўмовы на льнопрадзільных, папяровых, тытунёвых, шкляных, запалкавых, гарбарных прадпрыемствах. Таму не дзіўным было распаўсюджанне прафесійных захворванняў: сухоты, пнеўманія, бранхіт, рэўматызм, хваробы вачэй. Аднак медыцынская дапамога на вытворчасці была наладжана вельмі кепска. Напрыклад, у 1897 годзе з 609 фабрык і заводаў у Мінскай і Магілёўскай губернях урачэбная дапамога аказвалася толькі на 34. У фабрычных бальніцах Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў налічвалася ўсяго 32 [illegible]жкі. У пачатку XX стагодд[illegible] [illegible]ват на самай буйной (900 [illegible]авек) на Віцебшчыне фабрыцы «Дзвіна» не было стацыянарнай бальніцы, існаваў толькі амбулаторны пункт з фельчарам, куды зрэдку прыязджалі ўрачы. Хворых ці траўмі[illegible]ваных звычайна адпраўлял[illegible] [illegible]арадскія бальніцы, дзе амал[illegible] ніколі не было свабодных ложкаў, або адразу на кватэры. Пры гэтым належала выдача бясплатных лекаў, але яны не заўсёды былі ў наяўнасці. У Мінску для абслугоўвання 1,5 тысячы рабочых 46 фабрык і заводаў дзейнічалі ўсяго 2 амбулаторыі, у Барысаве ў 1911 годзе фельчарскія пункты існавалі толькі на 7 прадпрыемствах.

2 чэрвеня 1903 года царскі ўрад выдаў закон аб аказанні дапамогі рабочым, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў. Выплата дапамогі ажыццяўлялася з штрафнога фонду, гэта значыць, за кошт саміх рабочых. Закон 1912 года аб страхаванні рабочых ад няшчасных выпадкаў меў на ўвазе выплату пенсій са сродкаў бальнічных кас, у фонд якіх адлічвалася штомесячна ад 2 да 4 працэнтаў зарплаты. Жанчыны атрымлівалі дапамогу па цяжарнасці на працягу аднаго месяца да родаў у памеры ад паловы да дзвюх трэціх заработку. Падобныя паўмеры няэначна паляпшалі ўмовы вытворчага быту пралетарыяту.

З першых дзён пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Савецкі ўрад на чале з У. І. Леніным пачаў ажыццяўляць мерапрыемствы па ліквідацыі эксплуатацыі і паляпшэнні ўмоў працы і быту народных мас. 11 лістапада 1917 года было аб'яўлена пра ўвядзенне паўсюдна 8-гадзіннага рабочага дня. У студзені 1919-га быў створаны Камісарыят працы БССР, адной з галоўных функцый якога з'яўлялася ахова працы. У. І. Ленін пісаў у 1919 годзе: «У гэты момант, калі краіна разбурана, наша галоўная, асноўная задача — адстаяць жыццё рабочага, выратаваць рабочага... Калі мы выратуем яго за гэтыя некалькі гадоў, мы выратуем краіну, грамадства і сацыялізм».

**Ніна БУРАКОЎСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

### І ДЛЯ МЯНЕ ЗВІНЕЎ ЗВАНОК

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі і Беларускага таварыства «Радзіма»!

Магчыма, вы мяне не помніце, бо, я ведаю, у вас кожны год бывае многа гасцей з-за мяжы. А з часу майго прыезду да вас прайшло ўжо тры гады. Я і раней некалькі разоў збіралася напісаць вам, ды нібыта не было пра што.

Надыходзіць верасень. А гэты месяц аднойчы прынёс мне шчасце. Вось тут я і вырашыла напісаць вам. Спадзяюся, што вы ўсе добра правялі летнія адпачынкі і зноў пачалі працаваць. 1 верасня па ўсёй краіне звініць званок на першы ўрок для школьнікаў і студэнтаў. У дзяцінстве мы з радасцю чакалі яго. Гэтую радасць і шчасце мне давялося зноў адчуць у горадзе Мінску ў 1986 годзе на курсах павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў музычных, харавых і танцавальных калектываў, якія арганізавала для суайчыннікаў Беларускае таварыства «Радзіма».

Тады нібыта гады дзяцінства вярнуліся. Цікава было пабываць у школах, сядзець за партай самой, слухаць настаўнікаў. Акрамя заняткаў, у нас была вялікая і цікавая культурная праграма. Мы многа разоў наведвалі музеі, тэатры, канцэрты. З таго часу горад Мінск стаў для мяне больш зразумелым і родным.

Нядаўна артыкул у адной газеце нібыта напомніў мне пра ваш горад. Я ўявіла сабе Мінск, успомніла музей Вялікай Айчыннай вайны, дзе турысты ясна бачаць, які выгляд меў горад пасля вызвалення — дамы разбураны дашчэнту, роўнае поле, засыпанае камянямі. Нялёгка было адбудаваць горад. А цяпер вось там на шырокіх бульварах, паміж прыгожымі дамамі палымнеюць ружы. Няхай заўсёды радуе людзей цудоўны горад Мінск. Так, вельмі памятныя для мяне вясёлыя вераснёўскія дні 1986 года. Помніцца і сумныя мінуты, калі развіталіся з таварышамі па вучобе і паязды везлі нас у розных напрамках, усё далей ад Беларусі. Такія паездкі непаўторныя. З таго часу атрымліваю вашу газету «Голас Радзімы». Яна вельмі дапамагае не адчуваць сябе адарванай ад родных мясцін, нібыта і я недзе побач з вамі. Дзякуй вам за газету.

Жадаю вам усяго добрага, здароўя, поспехаў у працы і творчасці. Калі можаце, пішыце і мне, як вы там жывяце, які горад Мінск сёння.

**Наталля УЧАРАШНЯЯ.**
Галандыя.

